Так гамонім ды зноў
Стол накрыты гатоў
Пірагоў, бабак, скораму шмат.

Дзядзька зараз устаў
І ў каморцы прапаў—
Засьвярбеў у мяне, браткі, нос!
Я нядоўга чакаў:
Дзядзька важна сягаў
І бутэльку пад пахаю нёс.

Дзюбанулі мы з ім.
Праўда, дзядзька Яхім
Толькі вусы крыху памачыў.
— Пі ўжо ты, бо старым
Цяжка косьцям маім,
Ды, прызнацца, я сёньня хапіў.

Сядзімо мы, гудзём
І гаворку вядзём,
І пра бацьку мы ўспомнілі тут.
— Многа страцілі ў ім,
Кожны ўспомніць дабром,
Хоць у службе ён быў такі крут.

Дзядзька далей расчаў
І пра бацьку сказаў—
Мо' каб горкія думкі прагнаць:—
Доўга грудзі ён ссаў.
Хтось яго запытаў:
„Калі кінеш ты цыцку ўжо ссаць?“

А ён зразу адказ:
„Каля Яна якраз!“
„А па Яне?“ „Касіць я пайду!“
Так гамонка у нас
Заняла добры час,
А нарэшце ўстаю—да Каруся іду.

У Яхіма-ж ізноў
Мажджэр двойчы прашоў,
І я весел, як мае ўжо быць,—
Яшчэ-ж роўна я шоў.
Хоць сьпяваў ды бяз слоў,
І язык яшчэ мог мне служыць.

Мяне „Дрогі“ спаткаў,
Падышоў, шапку зьняў,
А я вусы абцёр, расхіліў.
Ён мяне цалаваў,
Да сябе заклікаў,
А нарэшце курыць папрасіў.

Трэці дзядзька—Карусь
Да яго я плятусь.
І так я сам з сабой гаманю:
Кепска будзе, уп'юсь...
Ды хоць так—не баюсь!..
Вось, дальбог, казаў так, не маню!

Бо я ведаў: „Дзівак“
Добра дасца мне ў знак,
Бо яго—самы большы „мажджэр“.

Я ўжо п'ян, бы латак,
Ды плятуся, аднак,
Адкаціўшы для форсу каўнер.

Пералез я парог
І галёшы зьняў з ног
І кажу: „Здрастуй, дзядзька Карусь!“
— Што-ж ты стаў! ці зьнямог?
Сунься дальш у бярлог!—
Я тралюю праз хату, як гусь.

Рада цётка была
І мяне абняла.
— Ну, прысядзь-жа ты, мой галубок!
Люлька ў дзядзькі храпла,
Сваё нешта вяла,
І пускаў дзядзька спрытна дымок.

Дзядзька зрэдка пляваў,
Моцны жарт адпускаў
І сьмяяўся сам дробненька так,
Ды ізноў замаўкаў,—
Нібы ў мысьлях блукаў—
Ну, нядарма празваўся Дзівак!

Неўзаметкі маргнуў,
Дротам люльку прапхнуў,
Хоць-бы слова сказаў да каго.
Колькі раз тупануў,
Да дзьвярэй завярнуў.
І гарэлка зьявілася ўміг у яго!

Зьняў з бутэлькі пячаць,
Сказаў ягад падаць.
З бутлі ў бутлю гарэлка цячэ.
Чую—трэскі трашчаць,
А там скваркі пішчаць—
То яечаньку цётка пячэ!

Вось мы селі за стол.
Дзядзька пляшку—у пол
І лье чарку да самых краёў.
І, зірнуўшы на дол,
Шаргануў свой прыпол.
— Ну, дык будзь-жа, брат Костусь,
здароў!

Галавой целяпнуў,
Чарку спрытна кульнуў,
А другую ўжо мне ён наліў.
Я яе адапхнуў,
Дзядзька зьнізу зірнуў:
— Што-ж, я грошы дарма заплаціў?

І так вокам павёў,
Што бяз дальшых я слоў
Ня горш дзядзькі „мажджэр“ асушыў.
— Ну, во так і—гатоў!
Вынуў люльку з зубоў,
І тут жарт дзядзька зноў адпусьціў.

Я сядзеў, як „філін“,
Ў галаве цэлы млын,
А яшчэ двух дзядзькоў абыйсьці!

А „мажджэр“, чортаў сын,
Зноў упёрся, як клін.
— Ну, яшчэ, брат, адну прапусьці!

Што парадзіш? валяй!
Даў бог сьвята—гуляй!
Што казанскай глядзець сіратой?
Прападаць—прападай!
Пі, валі, не шманай—
Як пусьціўся ў дарогу—ня стой!

Ад Каруся ізноў
Да Каруся пашоў:
Двух я маю дзядзькоў-Карусёў.
Пабажыцца гатоў,
Што ня чуўся мазгоў,
А ў вачох сьвет мяцеліцу мёў.

Выпіў-рэзнуў і там,
А як вышаў, і сам
Не магу я ніяк разабраць.
Я ня верыў вачам
І даў волю нагам
Ды Пятруся іду віншаваць.

Людзі скажуць, як я,—
Горка доля мая,—
Апыніўся у дзядзькі Пятра.
Мне-ж дарога свая
Цямней ночкі была,
Ў цень яе агарнула мара.

Помню быццам праз сон,
Павярнуў там заслон,
Як лез вон з-за стала, каб устаць.
Далей помню—Антон,
Прышоў з „Татусам“ ён
І вучыў яго рапарт аддаць.

Так я піў і гуляў,
Так дзядзькоў віншаваў
Вялікодным вясёлым дзяньком.
А дамоў як дыбаў,
Дык чарцей я склікаў,
На нябожчыкаў трос кулаком.

І ўсю ноч напралёт
Чаркі кідалі ў пот,
І ня мог галавы я падняць.
Дачакаю за год,
Дык кажу напярод:
Не пайду больш дзядзькоў віншаваць.

1912 г.

## „СЬВЯТЫ ЯН“

### I

Арганісты, пан Сарнэцкі,
Убіраць прышоў касьцёл.
Заўтра сьвята, фэст важнецкі...
Эх, у ксёндза будзе стол!
А гасьцей, гасьцей наедзе:
Арандатараў, паноў.
Многа будзе на абедзе
Розных клерыкаў, ксяндзоў.
Там пальлюцца рэчкай віны,
Грымне весела раяль,
А ксянжулькіна Мальвіна
Аздабляць будзе той баль.
Стаў народ ужо зьбірацца
З розных месц, далёкіх сёл...
Ну, то трэба-ж пастарацца
Як найлепш убраць касьцёл.
На дзядзінцы ўюць дзяўчата
З красак-зелені вянкі.
Праца шчыра распачата,
Завіхаюцца жанкі.
Арганісты знае справу
І мастацкі мае густ,

Рэй вядзе, вядзе на славу,
Хоць мазоліўся тут глузд.
Ды затое-ж на зьдзіўленьне
Быў убраны той касьцёл.
Сьвяты Ян паўзьверх адзеньня
Апяразан быў упол
Пояском з жывых расьлінак,—
Ну, той Ян аж зіхаціць!
Як-бы ўвесь сьвяты будынак
Ён хацеў сабой зацьміць.

А касьцёл быў у чэсьць Яна.
На падмурку сьвяты Ян
Першым чынам яшчэ зрана
Вельмі гожа быў убран.
Павыходзілі з касьцёлу.
Затрымаўся арганісты,
Сам здаволены, вясёлы,
Прад людзьмі і богам чысты.
Запыніўся перад Янам.
Эх, і хораша-ж убран!
Дагадзіў парафіянам,
Дагадзіў Сарнэцкі пан!
Хараство, любата!
А вяночак!
Паясочак!
А як ручачка ўзьнята!

Пастаяў крыху Сарнэцкі,—
Гэта—Ян, брат, ня сноп грэцкі,
Адпусьці ты, божа, грэх!
Паказаць людзям ня сьмех:

Хоць вязі яго ў Варшаву,
Хоць у Вільню, хоць куды!
Так зрабіў Сарнэцкі справу,
Як ні ў якія гады.

Толькі вось адна загана:
Вянок трохі завысока.
І Сарнэцкі ў момант вока
На падмурак скок да Яна!
Але тут неспадзявана
Стук сьвятога плячуком!
Ян аб землю старчаком!

Дарожачкай самай простай
Ды галоўкай аб памост той!
Лоб пабіўся на кавалкі,
Нос зьляцеў аж на дзядзінец...
Вось гасьцінец, дык гасьцінец!

Вось дык ліха, пераполка.
Па касьцёле гук панёсься,
Бы злы дух зарагатаў,—
Пан Сарнэцкі аж затросься,
Холад, жар яго праняў.

Што-ж то будзе?! О, няшчасны!
Што рабіць тут? што чыніць?
Лепш-бы чэрап свой уласны
Аб памост яму пабіць.

Ломіць рукі арганісты,
Тужыць, вохкае бядак.
Мусіць сам злы дух нячысты
Так накпіў з яго, лайдак.

II

— Што пан гэтак засмуціўся?
Зірк—сусед яго, Вінцэнт!
— О, мой браце! Ян пабіўся
На кавалачкі, нашчэнт!..

А бадай цябе агні!
Глянь адно, браток, зірні:
Бачыш? нос дзе, вунь дзе вушка,
Там кавалак барады...
Яне, Яне, божы служка!
Нарабіў ты мне бяды!..
А бадай-жа цябе пяруны!
Што нарабіў я, дурны?!
Ось Сарнэцкі пастараўся!
Дагадзіў сьвятому духу!
Ось папаўся, дык папаўся—
Як лісіца ў саладуху!
Вось ты бога і пахваліш!
А бадай цябе паралюш!
І нашто вянок чапаў я?
О, халера, о, пся маць!
Сьмех і грэх на ўсё Заслаўе...
І як фэст нам сьвяткаваць?..
— Кінь, пан, енчыць! глупства, пане!
І сам Ян таго нярварты!
Калі мёду пан дастане
І сьпірытусу з поўкварты,
Ды калі мне зафундуе,—
Дзіва-цуд я спраўлю:

Засьпяваюць „алялюе“—
Так касьцёл услаўлю!
— Браце мілы!
Да магілы
Не забуду—памажы!
Вядро мёду,
Толькі зьнішчы перашкоду,
Сьвет мне белы разьвяжы.
І дзьве кварты—
Глупства, жарты:
Гарнец зараз-жа нясу!
Пачастую,
Патрактую
І засмажу каўбасу!
— Калі так, ня плач па Яну:
Замест Яна сам я стану!
— Пан Вінцэнты! мілы браце!
Бог цябе мне пасылае!
Хай пан бог табе заплаціць,
Матка боская сьвятая.
У касьцёле сьвентаянскім
Будзеш „Янам“ элеганцкім!
Каранован каронаю,
Будзеш нашай абронаю!
Яна вынесьлі, схавалі,
Самі ўсю ноч балявалі,
А назаўтра, чуць разднела—
Не забыў Вінцэнты дзела—
Від сьвятога ён прымае,
На падмурку стаў, як трэба,

Вочы ўзьвёў, бы Ян, на неба,
Руку ўгору паднімае.
— Ну, як браце?
— Дасканала!
Богу хвала!

### III

А тымчасам сонца ўстала.
Людзі сходзяцца ў касьцёл.
Звон касьцельны са званіцы
Час вітае ўжо дзяньніцы,
Гудам коціцца вакол.

Каля „Яна“ аж завозна.
Тут і пана згледзець можна,
І кабетак-маладзіц,
І дзяўчатак-чараўніц,
І бабулек твар набожны,
І ўсе ціснуцца, бо кожны
Хоча выказаць пашану,
І ахвяры зносяць „Яну“:
Хто абрус, хто палаценца,
Хто ільну, хто рушнічок
І цалуюць—хто ў каленца,
Хто ў галёнку ўлепіць чмок.

„Ян“ стаяў, не варушыўся,
Ён трымаўся і крапіўся,
Ліха-ж вынікла няждана:
Мёд на вусах быў у „Яна“.

Чуюць пчолы—пахне мёдам,
І на мёд яны ляцяць
І над „Янам“ карагодам
І снуюцца і зьвіняць.
„Ян“ пакуль што не шманае,
Але-ж, ліхенька, пчала
Каля вуха завіла
І на вус яму сядае,
Губы лапкамі казыча.
„Вось хвароба!“ „Ян“ мармыча
„І прыстала-ж, як смала,
Тфу ты, чортава пчала!“
— Божа мілы! „Ян“ злуе,
Як-бы ён на нас плюе!—
Кажа ціхенька бабуля:
Ці ты бачыш, Пабіян?..
Во! зірні, зірні, Гануля:
Губкі крывіць божы Ян!..
Божа ядыны!
Одпусьць гжэхі нашы і віны!

Людзі дзівяцца, глядзяць,
Сталі божкаць і ўздыхаць,
Пчолка-ж поўзае й нябыта,
Хоць ты махалам махай.
— Фрру! як фыркне „Ян“ сярдзіта,
Ды як крыкне: а-я-яй!
От-жа, гадаўка, ўпякла!
Каб ты-ж выдахла была!—
Ды з падмурку як сарвецца,
Ды як рынецца ў народ!

Наўскапыта „Ян“ нясецца
Праз дзядзінец на гарод!
А за ім парафіяне.
— О, куды ты, сьвенты Яне?
Пане Яне! не ўцякай!
Пане Яне, пачакай!
А „Ян“, скінуўшы манаткі,
Прэ ў каноплі без аглядкі.

1918 г.

## РАК-ВУСАЧ

### I

Ну, пачнём мы казку так:
Жыў да быў на сьвеце рак
З доўгімі вусішчамі,
З чорнымі вачышчамі,
Вострымі, лупатымі,
З лапамі разгатымі,
Шырачэзны ў шыі,
Клешні—во якія!
А як вусам павядзе,
Страшна зробіцца ў вадзе!
Рыбкі хвосьцікам мяльнуць
Ды галоўкамі кіўнуць
І барждэй наўцекача
Ад рачышчы-вусача!
А ён шыішчай трэп-трэп!
Жабка ў бераг і—ні шэп.
Страшны рак быў, грозны рак,
Як ушчэміць—будзе знак.
І баяліся яго,
Як няведама каго.
Пад карэньнямі ракіты
Жыў наш рак, вусач сярдзіты.

І ёсьць загадка такая:
Ні сьмяецца, ні гукае,
Жыве ў бухце пад ракітай,
На ім сьвіта,
Ды ня сьвіта,
Хоць кравец, да ня Мікіта.
Ідзе ў лазьню камінарам,
А выходзіць камісарам.

II

Ну-ж і слаўна каля рэчкі!
І чаго на ёй няма!
Сітнякі стаяць, бы сьвечкі,
Тут чырвоныя парэчкі
І малін тых проста цьма.

Тут і лозы, і ракіты,
І чарот, і асака,—
Ну, як тыя аксаміты,
Вабяць вока здаляка.

А тых птушак і ня зьлічыш:
Качкі, кнігаўкі, драчы,
І сам бусел-паплаўнічы
Вас у госьці тут закліча,
Жабу ў дзюбе нясучы.
Тут жыве і сам камар,
Спраў балотных камісар,
Доўганосы, доўганогі,
Голас тонкі, а сам строгі.

У траве між чаратоў—
Колькі гэтых матылёў,
Бабак сініх і чырвоных.
Іх сукеначкі ў хвальбонах...
Пабажыцца тут гатоў:
Іх убор—іду ў заклад—
Закасуе ўсіх дзяўчат.

Весела на рэчцы
І траве, і кветцы,
І крылатым пташкам,
Мошкам і мурашкам,
І крыклівым дзеткам,
Асабліва леткам:
У рачулцы купаюцца,
У пясочку качаюцца.

III

Ой, бяда, бяда!
Мутненька вада—
Пахмурнела рэчка.
Ой, пакрыўдзіўся рак,
Смутны стаў небарак,
Ціхі, як авечка.
Не варушыць вусам,
Лёг на дно ён брусам
І ляжыць дзён тры.
Растапырыў клешні
І не есьць яешні,

Жабінай ікры,
Ня вылазіць з норкі.
„Лёс мой“, кажа, „горкі—
Цяжка быць ракам!“

Вось падплыў акунчык.
— Вылезь рак-гарунчык,
Не глядзі ваўком,
Ня смуткуй так дужа,
Разьвясельля, дружа,
Гэта-ж ня гульня!
Зойдзешся ад голаду,
Прападзеш ты змоладу
На парозе дня.
А як сьвеціць сонейка,
Грэе рэчцы лонейка,
Песьціць сітнякі,
Грэе так гарачанька...!
Разьвясельля, рачанька,
І нас ты ня кінь!
Ты сядзіш нахмураны,
Злосны і абураны
І ня бачыш дня.
Апусьціў рак вочы—
Нават і ня хоча
Слухаць акуня.
Падплывае плотка.
— Рача, маё злотка!
Адпусьціся, мілы!
Чым цябе ўлагодзіць?
Што табе абходзіць,

Поўніць злосьцю жылы?
І нам, рыбкам, трудна,
Жыць часамі нудна,
Проста ох-ох-ох!
Гоняць нас усюды,
Ловяць нас на вуды,
Надзяць на гарох.
Ловяць невадамі,
Душаць венцярамі,
Брэднем, тапчаком.
Ох, жыцьцё ня сьвята,
Горанька багата—
Лепш быць чарвяком!
Адпусьціся-ж, рача,—
Нават рэчка плача
Над сынком сваім...
Рак маўчыць зацята,
Вусам не закратаў...
Што рабіці з ім,
Разьвяселіць чым?

IV

Выдаў сом такі наказ—
Склікаць сход у той-жа час
І на сходзе абсудзіць,
Як на справу хто глядзіць,
Чым усьцешыць бедака,
Засмучонага рака.
А наказ ён скончыў так:

— Будзь ты старастам, шчупак!
Каб хутчэй ва ўсе канцы
Рассылаліся ганцы!

Тут шчупак мяльнуў хвастом,
Плотак зрушыў пад кустом,
А маруднага ліна
Выгнаў з саменькага дна—
І ўсім холаду задаў,
А нарэшце загадаў:
— Эй, вы, верхадкі, плоткі!
Паслужэце справе, цёткі!
Заклікайце рыбу ўсю
І скажэце карасю,
Няхай вылезе з гразі,
Хай плывуць сюды язі,
Яльцы, ментузы, кялбы,
І акунь, той гад рабы,
І сказаць яму прытым
Словам старасты маім,
Каб, спаткаўшыся са мною,
Да мяне стаў галавою!

Плоткі старасьце—паклон,
І ўсе рынулі ў разгон.

## V

У глыбознай букце
Між карчаг дубовых
Адбылася рыб'я
Важная намова.

Сом адкрыў сабраньне,
Выступіў з дакладам,
А язь сакратарыў,
Сеўшы з сомам радам.

— Таварышы-сябры,
Ляшчы і асятры!
Ліны і мянтузы,
Паслы ад драбязы
І іншыя асобы!
У нашай рэчцы—гора:
Смуткуе рак з заўчора.
З прычын такой жалобы—
Прышоў да пракананьня,
Што лепш яму скананьне,
Чым жыць на гэтым сьвеце,
Бо кажа ён, дзівак:
Самы няшчасны—рак!
І згінуць хоча ў цьвеце!
І толькі з той пары
Ён вылезе з нары
І смутак свой пакіне,
Калі хто давядзе,
Што ёсьць яшчэ ў вадзе,
Ці проста абы дзе,
Такі, чый лёс яшчэ больш цяжкі,
Іначай рак наш згіне.
І гэты аргумэнт
Саб'е яго нашчэнт,
Бо ён ёсьць самы важкі.
І вось цяпер, сябры,

Вы будзьце так дабры,
Найдзеце кандыдата,
І думаецца мне,
Што ў нашай старане
Пакутнікаў такіх,
Сапраўдных і цяжкіх
Налічыцца багата!

Зашумелі рыбы:—
— Назавём бяз хібы—
Імі гаць гаці,
Лёгка іх знайсьці.
— Таварышы, увага!—
Азваўся сакратар:—
Тут ёсьць такая пляга,
Што стукне вас, як шляга,
І кіне вас у жар:
Калі хто сапраўды
Сябе няшчасным лічыць болей,
Чым наш няшчасны рак,
То ён павінен добрай воляй
Аддацца раку для яды,
Так, так!
Іначай ён ня дасьць і веры!—
Сказаў ды зноў сеў за паперы.
Вось сказаў, дык сказануў!
Як сякерай сякануў!
Прыкусілі языкі,
Акунькі, мянькі, лінкі,
А маруда той, лінок,
Зараз—віль! ды пад кусток.

І добрых мінут пяць
„Пакутнікі“ маўчаць.
— На сьвеце жыць ня так ужо
і горка,—
Гаворыць краснапёрка:—
Плывеш сабе туды-сюды
Бяз гора, без бяды,
Пад кусьцік зазірнеш,
Ну, часам і ўздыхнеш,
Ды больш ужо з прывычкі,
Чым з клопату якога—
Ці так кажу, сястрычкі?
— А так! жывецца нам—нічога!
Хватае ўсім вадзічкі,
І плаваем па волі.
І жыру ёсьць даволі,
А тое нараканьне
І гэтая жалоба—
Пустое выдумляньне,
Ці панская хвароба.
— Гум!—прамовіў сом:—
Што-ж мы раку паднясём?
Няхай, значыць, гіне рак?
Ці ў няшчасных стаўся брак?
— Дайце слоўка мне сказаць!—
Ялец стаў хвастом віляць:—
Я скажу вам праўду ўсю:
Жыць найгорай карасю!—
І ўсе грымнулі: „Так, так!
Ён—няшчасьнейшы бядак!

Жыве ў такім балоце,
У такой брудоце!
Ён такі гаротны,
Ён непаваротны,—
Ні адной мінуты
Без тае пакуты!
Збоку глянуць—жаль бярэ!..
Як ён з гора не памрэ!
— А дзе карась?
— Зашыўся ў гразь,
І сход яму нямілы,
Сядзіць там, апастылы!—
І кажа сом:—заклікаць гаруна!
Шчупак, распарадзіся!
— Я ўраз, т. сом! спалю, як
з пяруна!
А ты, Карась, дзяржыся!

## VI

Прывялі карася пад канвоем,
Абступілі яго шчыльным роем.
Плотачка, як глянула,
Ледзь на дно ня канула:
Такі-ж ён няшчасьненькі,
Кругленькі, блішчасьценькі.
Лін паплыў пад лозы
Выцерці там сьлёзы.
Нават сом крануўся,
Хвост яго сагнуўся

І вусы задрыжалі
З гэтакага жалю.
Пытае сом лагодна,
Ну, як бацька родны.
— Ну, як жывеш, карась?
— А так сабе, ня дрэнна:
Качаюся, як князь,
Прысмакі ем штодзенна. —

Зьдзівілася тут рыб'я грамада:
Вось выпаліў, дык выпаліў, брыда!
А ялец той схаваўся ад стыда.
— Цікава, — кажа сом, — цікава!
Зьдзівіў ты нас, карась, яй-права!..
Ну, а скажы: ты смуцішся, ці не?
— Чаго смуціцца мне?
Ня ведаю такога пачуцьця —
Цярпець я не магу ні смутку, ні ныцьця!
І часу не хачу на тое глупства траціць:
За глупства гэтае ніхто мне не заплаціць.
— Ты кажаш — траціць часу.
Навошта-ж траціш час?
— А вось які мой сказ:
Люблю поэзію, жыцьця майго украсу,
І з ёю я ня ведаю згрызот,
Поэзіяй і смутак адганяю:
Зашыюся ў чарот
І вершы там складаю!

Зьдзівіўся сом, вачамі ўскінуў язь
І кажа карасю:
Поэт ты наш, карась!

Гаворыш складна ты,
Паслухаць нават люба.
Мы слухалі, разявіўшы раты,
Хоць ты адказваў досыць груба,
Але хачу цябе спытаць:
А што будзеш ты сьпяваць,
Як часамі кульганеш,
Ды на прыпек пападзеш?
—Папаўся, брат, карась!
Поэзія тут—лясь!
— Нязгодзен з вамі грамадзяне!
Калі мой час настане,
І лягу я ў скавараду,
То й вусам я не павяду:
Карась папесьціцца ў сьмятане!—
Засьмяяўся сом.
— А няхай ты згары,
Дзівакі, як відаць, песьняры,
Мабыць розум у іх слабаваты,—
Адпраўляйся, карась, ты да хаты!..
Пачакай! ці ня ведаеш, брат,
Хто па часьці няшчасьця тут хват?
— Пра пакуты чарот мне шумеў,
Але слухаць я часу ня меў.

## VII

Паслалі дэлегацыю
Да таго чарата,
Хоць думалі, што з гэтага
Ня выйдзе ні чарта.

Была тут пара плотачак,
Акуньчык і кялбок.
Чароту пакланіліся
І кажуць:
— Галубок!
Паслалі нас, чаротанька,
Ад рыб'яй грамады
Прасіць цябе і кланяцца,
Каб вызваліў з бяды
Рака таго няшчаснага,
Што ўздумаў уміраць—
На сонейка на яснае
Ня хоча пазіраць!
Мы ведаем, чаротанька,
Што ў сьвеце ты адзін
Дасі яму ратуначак,
Парадуеш рыбін.
Раскажаш шчыра ты яму,
Як цяжка табе жыць
І што раку няма чаго
Згрызацца і тужыць.
Дык будзь-жа ласкаў, міленькі,
Паслухай, паслужы
І мудрасьць сваю ты яму
І гора пакажы.
А справу тую выпаўніш,
Запішам мы цябе
На дошчачку чырвоную,
На вербачку зялёную
Мы вывесім яе.

— Ша-ша! шу! шу!
Упартасьць я скрышу
Рачыную шурпатую:
Нягодамі багатую,
Як долю раскажу—
Зражу!
Шу-шу!
Ссшушу!
Ша-ша!
І—ша!

## VIII

Рак сядзіць у нары,
Высунуўшы клешні,
І ня есьць ні ікры,
Ні тае яешні.
Ну, чакай-жа, брат рак:
Унь ідзе чароцік!
Рыба валіць пад гак,
Расчыніўшы роцік
Плёх стаіць на вадзе,
Няма месца нідзе

Стаў чарот у позу
Супроць вербалозу,
На рака-бедака
Ён глядзіць звысака.
— Ша-ша! шу-шу!
Увагі, рача, я прашу...

Рача, рача! ёсьць на сьвеце
Многа нешчасьлівых,
Вылезь з норкі, рача-квеце:
Смутак твой—ня дзіва.

Я—гаротнік, якіх мала,
Ты паслухай толькі:
Я на грунце нятрывалым
Распускаю голькі,

Распускаю іх вясною
Ў часе халадэчы.
Веюць ветры нада мною,
Ломяць мае плечы.

Сам я тонкі, сам я кволы,
Хоць і, праўда, гібкі.
Як сьцялюся я над долам,
Няхай скажуць рыбкі!

Я адзін, няма заслоны.
Не растуць там лозы,
А мой лісьцік, мой зялёны,
Смокча тля, стракозы.

Я люблю прасторы, сонца,
Я цягнуся ўгору,
Ды ў каленях маіх донцы
Шкарлупяць ня ў пору.

Я-б хацеў стаць, як колода:
Быць магутным люба.

Ня судзіла-ж мне прырода
Стаць мацней ад дуба.

Рача, рача! ой, кароткі
Век мой чараціны!
Як жыву я ў час паводкі—
Ня відно чупрыны!

Мокну, гіну, гнуся, рача,
Пад напорам хвалі.
Хто-ж па мне ўздыхне, заплача?
Хто дасьць кроплю жалю?

Прыдзе восень, пажаўцею,
Як з тае жаўтачкі.
Вось увага, добрадзею,
Долі, тэй лайдачкі!

А на лёдзе на падсьцілку
Палажу я косьці.
А хто прыдзе на магілку,
Што на тым пагосьце?!

Рача, рача! ёсьць на сьвеце
Многа нешчасьлівых...
Вылезь з норкі, рача-квеце—
Смутак твой—ня дзіва!

І заплакаў тут
Наш чароцік горды.
Рак-вусач ані шэп!
Ну, як камень цьвёрды!

## IX

І што зробіш ты з ракам,
З тым упартым дзіваком?
Вось бяда з ім, дык бяда!
Што ты скажаш, грамада?

Справіцца з бядою
Можна грамадою.
Трэба рукі прылажыць,
Каб наш рак астаўся жыць.
І хацелі слаць паслоў,
Каб ня траціць лішніх слоў,
Ды на шчасьцейка якраз
Плыла качачка ў той час.
Выклікаецца яна
Абразуміць гаруна.
— Дзякуй табе, качанька!
Патурбуйся, мілая!
Паміраe рачанька,
Клешня ён двухвілая!
Галава упартая,
Нікуды нявартая!
Разважалі яго мы—
Ён ні слова, як нямы!
Разважала плотанька,
Акунёк, чаротанька...
Папрабуй ты, цётанька!
Справа то грамадзкая,
Почасьць будзе хвацкая:
Як справу тую выпаўніш,

Запішам мы цябе
На дошчачку чырвоную,
На вербачку зялёную
Мы вывесім яе.

## X

Рак сядзіць у норы,
Высунуўшы клешні,
І ня есьць ні ікры,
Ні тае яешні!
Сьцеражыся-ж ты, рак:
Унь ідзе, брат, качка!
Рыба валіць пад гак,
Там цяпер гарачка.
Плёх усьцяж на вадзе,
Няма месца нідзе.
І залапатала
Крыльлямі тут качка,
Ды вось як сказала
Гаруну бядачка:

„Што забраў ты ў галаву,
Рак ты неразумны?
Ці наліў ты волава
Сабе ў сэрца, чумны?

Рыбка непакоіцца
З гэтакага суму,
Сэрца яе кроіцца,
Бо што ты задумаў?

І падумаць—цацка я,
Цаца—сум рачыны!..
Ты жыцьцё грамадзкае
Выбіў з каляіны!

Ой, занадта многа ты
Носішся з сабою!
Справа варта рогату
У параўнаньні з мною.

Я хоць і жанатая,
А жыву ўдавою.
Ды каго то кратае?
Ой, жыцьцё праклятае
Не дае развою!

Раньняю вясенькаю,
Як сяляне ў поле
Выедуць з сявенькаю,
Я адна-адненькая
Шворуся па доле

І шукаю купінку,
Зацішной і дзікай,
Аглядаю рупненька
З боязьню вялікай

Кожную мясьціначку,
Кожненькую лядку,
Дзе-б мелі спачыначак
Дзеткі-качанияткі.

Бяз мужнінай помачы
Я будую хатку,
Галаваньку ломячы
І дзюбок-лапатку,

А мой качар шэранькі
Знаць мяне ня знае:
Б'е, скубе мне пераранькі,
Я-ж цярплю—адна я!

А дзетачак выведу,
Клічу іх на воду,
Ды сустрэнеш злыбяду,
Гора-перашкоду.

На жыцьцё качынае
Робяцца замахі.
Як трасуся, гіну я!
Томяць сэрца страхі...

Ой, да няма ліку ім,
Горкім тым падзеям!
Ды ня робім крыку мы,
Скардзіцца ня ўмеем.

Дык уваж ты клопаты,
Рыбіны заходы.
Гэта расшалопай ты,
Кінь згрызоты-зводы!"

Слухала тут рыбка,
Шархла яе скура,
А той рак ні рухнуў
І маўчыць панура.

## XI

Ах, бадай-жа ён скіс,
Гэты рак вусаты!
Проста плягаю зьвіс
Сум яго зацяты!
Нарабіў грамадзе
Клопату па вушы.
Вухам, гад, не вядзе,
Хоць-бы клешняй рушыў.

І няўжо-ж, грамада,
Не дасі ты рады?
Проста сьмех і бяда,
З гэтакае звады!
І пашла на задор
Тая паталоча.
Кінеш, рак сваю хвор,
Грамада так хоча,
Моц яе немала,
Дай ёй разгарэцца!
Пагалоска пашла
Аб раку па рэчцы.

Слухаў бусел, маўчаў,
Думаў, а нарэшце
Чаплі штось прабурчаў,
Нібы зяць да цешчы.
Чапля крыльлем лоп-лоп!
І ляціць да рыбы.
Мусіць бусел на троп
Тут навёў бяз хібы.

І ў разгар тых прамоў
Чапля прэ да сома—
Без чаргі прымі, моў:
Дэлегат птушкома!
Даюць чаплі слова.
Вось яе прамова:

„Т. т! рэчка—наша агульняя справа,
І пашла аб ёй нядобрая слава,
Што рыба, птушкі і травы
Ня могуць справіцца з ракам,
З упартым нейкім дзіваком,—
Выпадак пэўна-ж няцікавы!
Папробуем заклікаць жыта,
Прывяду яго сама і—квіта.
Калі ён і яго не паслухае,
Тады палкі занюхае“.

Рыбка, зьбіўшыся пад мосьцікам,
Папляскала чаплі хвосьцікам.
— Дзякую табе, чапленька!
Патурбуйся, родная!
Паміраe рачанька,
Галава нягодная!
Справа то грамадзкая,
Почасьць будзе хвацкая:
Як справу тую выпаўніш,
Запішам мы цябе
На дошчачку чырвоную,
На вербачку зялёную
Мы вывесім яе.

## XII

Рак панура сядзіць
І на сьвет не глядзіць.
Сьцеражыся-ж ты, рак:
Унь ідзе, брат, жыта!
Рыба валіць пад гак,
Сом храпе сярдзіта.
Плёх усьцяж на вадзе,
Няма месца нідзе.
Каліва ржаное,
Сьпелае, буйное
Стала над вадою
І сказала:
„Рача!
Скрыўджан ты няйнача
Нейкаю бядою.

Але ты паслухай, дружа!
Ой, на сьвеце ходзіць сьцюжа!
Ой, халодзіць яна дужа!
Ветрам дыша, сьнегам сьцеле,
Чуць душа трывае ў целе.

Надыходзіць старасьць-восень,
З воч зьнікае неба просінь,
Віснуць ніці з хмарак-кросен.
Ой, выносяць мяне ў поле,
Рассыпаюць ды па ролі

Ды людзкія тыя жменькі
З саламянай тэй сявенькі
У халодны дол пусьценькі.

Усё чыста з поля зьнята—
Там адны мае зярнята.

А той вецер дзікім сьвістам
Дзьме па полі, полі чыстым,
Усьцілае жоўтым лістам
Мае шоўкі, мае руні
Ды халодных хмар насуне.

Золкасьць, зыркасьць і плюхота,
Журба, смутак і тускнота,
Безьлюдзь, жудзь і адзінота.
Скубуць мае руні-шоўкі
І авечкі і кароўкі,

Бо няма ім больш спажывы,
Бо расьлінкі ўсе няжывы,
Бо сабраны травы, нівы.
А там сівер чмыхне злосна!
Ой, як страшна стане, млосна!

Ткуць марозы кужаль белы,
Засьцілаюць ім сьвет цэлы,
Убіраюць дол зьмяртвелы.
Мае шоўкі, мае руні
Скрыжыць злы мароз-дзядуня.

Пад абрусам тым кужэльным,
Пад тым холадам пякельным
Я лягу, сплю сном сьмяртэльным.
Ды надыйдзе зноў вясенька,
Маладзічка весяленька.

Шумным сьпевам пройдуць воды,
Паскідаюць з рэчак лёды,
Зноў павее дух малоды.
Мае шоўкі, мае руні
Аднавіць вясна-красуня.

Як зязюлька-ж крыкне ў гаю,
Я на сонцы заіграю,
Я пучочкі выганяю.
Вецер бегам нясупынным
Гоніць хвалі срэбрам плынным,

Шоўкам сьцеле на загоны,
А я толькі б'ю паклоны
Ва ўсе чысьценька староны—
Ветру, сонцу і зямельцы,
На мяжы траве-кудзельцы.

Ой, падыдзе-ж тое лета,
Жоўтым шоўкам я адзета,
І тут песьня мая сьпета!
Ідуць жнейкі-маладзічкі
І дзяўчаткі-чараўнічкі.

Нясуць жнейкі серп крывенькі,
Зрэжуць колас мой буйненькі
Пад звон песень галасьненькі:
„Пара зямлю адмыкаці,
Пара росу выпускаці".

Як мост, зьлягу я на просьце.
Вязуць з поля, ды ня ў госьці,

Паб'юць цэпам мае косьці,
Мае зерняткі пасушаць,
Каменьнямі іх падушаць.

Ой, мае-ж вы, шоўкі-руні!
Ой, пабілі-ж мяне ў клуні!
Пакрышылі, памалолі,
Не далі мне жыць на волі!

А ў той дзежцы дубовай
З жоўтай клёпачкай альховай
Расчыняюць хлябок новы,
Расчыняюць на вадзіцы
З мае беленькай мучыцы.

Мяне ў дзежцы месяць-месяць,
Пераверну́ць разоў дзесяць
Ды настольнічкам завесяць.
А печ паляць да чырвона.
Гляджу ў страсе я, зьдзіўлёна.

Ой, да чым я вінавата?
Шугне ў печ мяне лапата,
Дзе агнём усё пранята.
Я ў агні тым абамлею,
Пажаўцею, учарнею.

І вось толькі як вадзіцай,
Тэй халодненькай жывіцай
Мяне ўмые маладзіца,
Тады толькі сьвет пабачу...
Каму-ж горай з нас, мой рача?"

І сказаў тут рак-вусач:
„Грамада! ты мне прабач!
Мая журба ў прах пабіта—
Зваявала мяне жыта,
І ад гэтае пары
Прападай, мой сум стары!
Прападзі наша бяда!
Няхай жыве грамада!“

---

Рыбка з радасьці такой
Пашла ў скокі талакой,
А за ёю пташкі,
Навápыўшы кашкі
З сьпеленькіх пурышак
І з малінак-пышак;
А за птаствам—мошкі,
Падабраўшы крошкі,
За мошкамі—дрэвы,
Распачаўшы сьпевы,
За дрэвамі - травы
Ладзяць баль цікавы.
І прышлі музыкі
Чарадой вялікай.
Граў на скрыпачцы камар,
На дудачцы чмель-дудар,
Хрушч узяў басэтлю,
Задае там пытлю.
Шэршань барабаніць,
Камарыка ганіць:

„Пашоў вон! пашоў вон!
Ты ня гэты бярэш тон!“
Муха на цымбалах
Струны калыхала,
Авадзень на леры
Выцінаў бяз меры,
А чырвоны конік
Жарыць у гармонік.
Сеў сьвярчок
На сучок
Ды тне на клярнэце,
А жучок,
Чарнячок
Пачаў песьні пеці
І так хораша сьпяваў,
Што зусім прычараваў
Тую бабку-шэльму,
Што прыгожа вельмі.
Выскачыў журавель,
Як Піліп з канапель,
Напалохаў жабу,
Лупатую бабу.
Пашлі ў скокі сотні пар,
А за імі і камар
Бусла спрытна падхапіў,
Буслу ногу зачапіў,
На мазоль наступіў.
Драчык песьняй скончыў баль
І дашчэнту зьнішчыў жаль.

Тут дайшлі мы да канца,
Дайце-ж чарачку вінца,
А не,
Дык папляскайце хоць мне!

1926 г

## ДЗЕД і МЯДЗЬВЕДЗЬ

I

Кажа дзеду баба:
„Дзеду, з хлебам слаба—
Едзь у млын ты, дзедка!“
Млын ня страшан дзеду.
— Трэба, дык паеду,
Бабка, мая кветка!
Дык гатуй сьняданьне—
Менш завозу зраньня,
Справа, бач, такая.
Паліць баба ў печы,
А дзед грэе плечы,
Сьнеданьня чакае.

II

Скавародка
Ходзіць лётка,
Спрытна ў бабіных руках.
Тыя-ж дровы
Роняць словы—
Трах-та-тах!
Трах-та-тах!

Скваркі ў печы
Штось дарэчы
Шэпчуць тэй скаварадзе,
А старэчы
Каля печы
Ім і сам у тон гудзе.

III

Дзед пасьнедаў ёмка,
Нават ікнуў громка.
Вось прыбраў наш дзед калёсы,
Колы дзёгцямквацануў,
Нацягнуў тужэй атосы,
Шчыльней загваздкі заткнуў.
І мяшкі паклаў дзядуня—
Дуж дзядок быў і здароў,
Па кабылу звольна суне,—
Дзед гарачкі не пароў.
А была-ж у дзеда
Кабыліца гнеда,
Белагрывая,
Памаўзьлівая.

IV

Вышаў дзед, кабылу кліча:
„Кось-кось-кось!“
Ды „кось-кось-кось!“
Выган, гай прайшоў наскрозь,
Бо каб лін ведаў звычай.

Эх, кабылка, воўча мяса,
Ну, і шкодніца-ж яна!
Так і шворыцца адна,
Лезе ў шкоду самапасам.
А бадай-жа яе качкі!
Трэба ў млын, яе-ж няма!
Час той зводзіцца дарма
З-за кабылкі, з-за лайдачкі.
Дзед ідзе, а цемнавата.
Зірк—у грэчцы ходзіць штосьць.
„Знаю нораў твой нябось
І натуру твайго брата!
Патравіла грэчку троха...
Пачакай-жа, памаўзоха!“
Скраўся дзед і—хоп за грыву,
Ды вярхом і ў бок штурхецьь!
Як раўне-ж пад ім мядзьведзь!
Як памчыцца ў лес праз ніву!
Як задасьць ён ла-та-та!
Прэ мядзьведзь наўскапыта.
А дзед бедны—дух у пятах.
Учарэпіўся за хіб,
Зьвера пынячы, ахрып.
„Тпррру, спыніся! стой, праклятаы!
Тпру, мядзьведзік! бач, мядзьведзь!“
А мядзьведзь—цялеп-кульгець!
Толькі мордаю трасе,
Дзеда ў лес імчыць-нясе!

## V

І набраўся-ж страху
Дзед з сваім мядзьведзем!
Гэтак даў ён маху—
Сьмех сказаць суседзям!
Як ён не разгледзеў
Ды сеў на мядзьведзя!
Беглі ельнякамі—
Біўся лес сукамі,
А галінкі-лапкі
Зьбілі дзеду шапку,
Аб бярозу-вітку
Разадраў дзед сьвітку,
А аб пень дубовы
Г з набіў здаровы.
Бачыу лес пацеху,
Дзеду-ж не да сьмеху.
Пазіраў з бярлогу
На іх вепр іклаты.
Уступаў дарогу
Ім сам лось рагаты.
Цокала вавёрка
Ад такога дзіва,
Нават воўк з узгорка
Лыпнуў вокам скрыва.
А як зайчык згледзіў
Дзеда на мядзьведзі,
Ад тэй небясьпекі
Кінуўся наўцекі.

Злодзей тхор-выжыга
Толькі выскаляўся,
А лісок, псялыга,
Со-сьмеху качаўся.
„Ой, зьвяры, вы, мае братцы!
Памажэце мне сьмяяцца!“

Гасаў мядзьведзь, гасаў,
Насіў дзядка, насіў,
Аж сам сябе кусаў,
На ўвесь лес галасіў.
Зачапіўся лапцем дзед
За корч-патарчаку,
Адчыніўся тады сьвет
Дзеду-небараку.
Выпусьціў мядзьведзя з рук,
Гопнуўся, завохаў,
Расьпасьцёрся, бы япрук,
На зялёным моху.
„Вось брыда, мядзьведзь!
Адкараскаўся ледзь!
А бадай ты спрах!..
Аж гудзе ў вушах!“

## VI

Прышоў дзед дахаты,
Ціхі вінаваты.
Ї спытала бабка:
„А дзе твая шапка?

Як табе ня брыдка—
Разарвана сьвітка!
Ой, ты дзед-дурыла—
У хляве кабыла!
Дык вазьмі за нораў—
Не хадзі за горы,
А перш каля носу
Пашукай ты лёсу.

ДЗЕД

Скажы дзякуй, баба,
Што прынёс я драбы!

1926 г.

## САВОСЬ-РАСПУСЬНІК

### I

Вось што дзеткі, мае краскі:
Што хадзіць за многа міль?
Можа лепей замест казкі
Расказаць вам адну быль?
Згодны?
Добра.
Ну дык вось.
Зваўся хлопчык наш Савось.
Ой, і быў-жа ён дурасьлівы!
У сад лазіў па грушы, па сьлівы,
Дзіркі ў градах рабіў—
Моркву сьцібрыць любіў,
І маку ён скручваў галоўкі,—
Ну, на гэта быў страх які лоўкі!
А рукі ў яго ня мыты,
Нос не абцёрты.
А сам ён сярдзіты,
Такі задзірака,
Такі забіяка,
Буян,
Грубіян.

Зачэпіць старога,
Пакрыўдзіць малога,
Такі ўжо нягоднік,
Да гэтакі шкоднік!
Бегаў загуменьнямі,
Кідаўся каменьнямі,
Пападаў у шыбы—
Хоць гані з сялібы!
Меў на зло сьмякалку,
Зьніме з вежы галку,
І такі гарачка,
Няхай яго качкі!

II

У Савосева суседа
Быў пярэсьценькі каток,
Выхаванец Паўла дзеда,
Такі слаўны пястунок!
Нос чарнявы,
Хвост бялявы,
Задзірасьценькі,
Кіпцік-шчыпчык
Заграбасьценькі,
Лапкі-драпкі
Машастовыя,
А шарсьціначкі
Шаўковыя,
Губкі, зубкі
Адмысловыя,

Вусы-русы
Патырчастыя,
Тая сьпінка,
Як націнка,
Выгінастая.
Вушкі-служкі
Ня мыляюцца,
Вочкі ў ночку
Запаляюцца.

Ну, такі каток харошы,
Як драпянка за тры грошы!
Хадзіў коцік пад масток,
Лавіў рыбку за хвасток,
Потым дзеду ён на печы
Казкі-байкі варкаваў,
Белым хвосьцікам дарэчы
Тахты сьпевам адбіваў.
Коцік з дзедам жыў у згодзе,
Не сварыліся за печ.
Быў раз коцік на паходзе—
На мышэй падняў ён меч!
Шоў каток з паходу,
Разагнаўшы мышак,
І сеў на калоду
Пад страху ў зацішак.
Грэе сабе сьпінку,
Мордачку і лапкі.
Зірк—Савось з будынку
Выскачыў бяз шапкі!
За Савосем—Рудзька.

— Кусі ката, цюцька!—
Коцік бедны ўвесь жахнуўся,
Ды на шчасьце быў тут плот,
А пры плоце дуб, і кот
Толькі фыркнуў, мільгануўся
І на дубе апынуўся.

Сеў каток
На дубок,
Кажа забіякам:
Эх, Савось, шалапай!
Ты мяне не чапай
І ня цкуй сабакам!

Не ўдалося Савосю
Катка падкусіць
І прышлося Антося
На помач прасіць.

III

Вось Савось
І Антось
Сталіся дружакі.
Каля клуні стаяць,
Штось ліхое таяць—
Радзяцца, вужакі!
Як злавіць ім катка
І аддаць з малатка
Рудзьку на расправу.

Падшывальцы-ж яны,
І іх розум дурны
Выдумаў забаву!
А па тэй нарадзе
Саўка торбу крадзе,
Анцік—хлеб сабаку.
А каток на печы
Сеў, як той старэчы,
Яму і ня ў знаку.

Эх, пярэсьценькі каток!
Сьцеражыся ты, браток!
Не хадзі ты па надворку,
Не хадзі гуляць за горку—
Там бяда цябе чакае,
Сам ня ведаеш, якая.
Асьцярожненька хадзі,
За Савосем ты глядзі,
Бо Савось замысьліў штось,
Нездарма з ім і Антось.

Затаіўся ў кутку
Наш Савось і катку
Замаўляе зубы
Для кацінай згубы:
„Ах, ты, коцічак мой!
Які файны ты, ой!
Што за сьпіначка,
Ну, карціначка!
Ідзі, коцік, да мяне,
Не пакрыўджу цябе, не!

А якія вочкі!
Бачаць сярод ночкі!
А якія лапкі!
Да як яны цапкі!
Ах, ты, мой каточак,
Чорненькі насочак!
Ідзі-ж, коцік, да мяне:
Не пакрыўджу цябе, не.

Яўкнуў коцік, выгнуў сьпінку,
Хвост падняў, як корбу,
Але ў тую-ж хвілінку
Шусь каток у торбу!

IV

І панесьлі катка ў поле.
А там чыста—ні кусточка,
Ні хваінкі, ні дубочка,
Адны межачкі ды ролі.
Няма дзе катку схавацца:
Чуць сінее лес далёкі,
І сяло за тры валокі,—
Як катку там ратавацца?
Плача ў торбе коцік, плача:
„Мяў, мне душна! Мяў, мне цесна!
Б'ецца сэрцайка балесна,
Бо мне грозіць сьмерць, няйнача“.

Кот бурчыць і гурчыць,
Лапамі дзярэцца,

А Савось хоць-бы што—
Цешыцца, сьмяецца.
— Ну, спыніся, Антось,
Падзяржы сабаку:
Толькі выпушчу ката,
Цкуй тады ў атаку.
Адышоўся Савось,
Анцік прытаіўся,
І тут коціку астрог
Раптам адчыніўся.
З торбы выскачыў, прысеў—
Трэба-ж разглядзецца.
Зірк—там Рудзька! што рабіць?
Дзе яму падзецца?
— Цкуй! пускай!—крычыць Савось.
— Кусі ката, Рудзька!..
Ша! чаго-ж так закрычаў
Наш Савось нялюдзка?
Глянуў Анцік—вось дзівота!
Вось дзе ліха, вось бяда!
Што зрабіла ім дурота
І што сталася з ката!
Вось папаліся дзе змоўцы—
Проста шкода малышоў:
На Савосевай галоўцы
Коцік схованку знашоў!
Лемантуе бедны Саўка,
Ашалелы, чуць жывы
Кот упіўся, ну, як п'яўка,
І ня зьнімеш з галавы!

Запусьціў капцюр у скуру
Аж да самае касьці.
Скача Саўка з таго дуру
Ды крычыць: „Пусьці! пусьці!“
Рудзька верціцца навокал,
Брэша, цапае катка.
Ай, Савоська, ты мой сокал!
Справа дрэнна і брыдка!

Ой, нагараваліся,
Ой, бяды набраліся
Хлопцы з тым катом!
З поля як вярталіся,
Людзі з іх сьмяяліся,
Тыкалі пярстом.
Шоў Антось уперадзе,
Рудзьку вёў на прывязі,
Пазіраў уніз,
А Савось на водшыбе,
На галоўцы з коцікам,
Шэпчучы: „кіс-кіс!“

І хоць ён не піонэр,
А чырвоны меў каўнер.

1926 г.

## СІЛА АГІТАЦЫІ

### I

Прыехаў у вёску таварыш з раёну,
Паклікаў на сходку сялян,
І доўга грымеў ён наконт самагону,
Як поп, настаўляў грамадзян.

І кідаў сталёвыя, палкія словы
Начальнік міліцыі, Дрот.
Сяляне журботна хілілі галовы,
Глядзелі ўвесь час яму ў рот.

Натоўп адклікаўся часамі заўзята:
„Сьвятая то праўда!“ „Так! так!“
„Дурота!“ „Распуста!“ „Дарэмная трата!“
„Сьвядомасьці гэтае брак!“

І бачыць начальнік—узрушана глеба
У нетрах сялянскай душы.
У строгасьцях гэтых ня будзе патрэбы,
Капут самагону пішы!

Натхненьне бурліць яшчэ з большаю сілай,
Сялян забірае ў палон...
Прамову закончыў канцоўкай завілай.
І грымнулі: „Прэч самагон!“

Начальнік узрушан і пот выцірае,
Што выступіў бобам на лбе.
„Ну, вось і дапета ты, песьня старая!“
І сам усьміхнуўся сабе.

II

Мітынг скончан. Разышліся.
І вачом ня верыць Дрот:
Бяз прымусу, без камісій
„Апарат“ нясе Хвядот!

Вось што значыць яно, слова,
І разумны падыход!
А Хвядот зірнуў сурова
І ступіў крок напярод.

Вочы зорць вінавата,—
Вось я грэшнік, моў, які!
Падыходзіць, як да брата,
Сам узрушаны такі.

ХВЯДОТ

Т. начальнік! раскрыў цемнату ты—
Я—вінен!
Ня трэба, ня трэба, т., атруты!
Няхай-жа ён спрахне ад гэтай мінуты
І згіне!
Страта дзяржаве, сабе небясьпека,
Глум збожжа!
Але-ж, сказаць, ня было чалавека,
Нябожа,

Каб праўду раскрыць
І ўсё растлумачыць...
Няхай-жа ён, дасьць бог, згарыць,
Няхай яго вочы ня бачаць.
Праваліцца яму скрозь зямлю!
Убачу—сваімі рукамі зламлю
І будзь ён праклят!—
І вобземлю—гоп „апарат!“

III

У Дротавым сэрцы вялікае сьвята,
І хваліцца Дрот:
„Вось ён, разумны прыём дзе, рабята!
А прыклад—Хвядот!“
Ў Хвядотавым сэрцы таксама ня будні.
Сьмяецца Хвядот:
„Стары ён быў, падла, хоць кідай у студню,
А новы ён—вот!
Продукцыя вышай процэнтаў на сорак,
Спакой—на ўсе сто!
Тактыка, братцы, ядры яе корак,
Прыдумаў—ніштто!
І носа сюды не паказвае болей—
Гані, брат, ва ўсю!
Такое раздольле,
Як гразь карасю!“

1928 г.

# ЗЬМЕСТ

## КНІГІ ТАГО-Ж АЎТАРА:

1. **Апавяданьні.** Зборнік расказаў у прозе. Выданьня 1908 г. (Распрадана).
2. **Другое чытаньне.** Выд. 1908 г.
3. **Песьні жальбы.** Зборнік вершаў. Выд. 1910 г. (У продажы няма).
4. **Родныя зьявы.** Расказы ў прозе. Выд. 1912 г. (Распрад.).
5. **Батрак** Апавяданьне вершам.
6. **Прапаў чалавек.** Апавяданьне вершам. Выд. 1912 г.
7. **Тоўстае палена.** Апавяданьне. Выд. 1912 г.
8. **Антось Лата.** Драма ў 2 актах. Выд. 1918 г.
9. **Водгульле.** Зборнік вершаў. Выд. „Сав. Белар." 1922 г.
10. **Новая зямля.** Поэма. Выд. „Сав. Белар." 1923 г. (Распрад.).
11. **У палескай глушы.** Аповесьць. Выд. Б. Клецкіна. (Распрадана).
12. **Першыя крокі.** Апов. для дзяцей. Выд. Дзярж. Выд. 1924 г.
13. **Крок за крокам.** Апов. Выд. Дзярж. Выд. 1924 г.
14. **На рубяжы.** Апов. Выд. Дзярж. Выд. 1924 г.
15. **У цiхай вадзе.** Зборнік апав. Выд. Дзярж. Выд. 1924 г.
16. **Сымон музыка.** Поэма. Выд. Дзярж. Выд. 1925 г.
17. **Казкі жыцьця.** Апов. Выд. Дзярж. Выд. 1926 г.
18. **Мэтодыка роднае мовы.** Выд. Дзярж. Выд. 1926 г.
19. **У глыбі Палесься.** Працяг „У палескай глушы".

## РЫХТУЮЦЦА ДА ДРУКУ:

1. **На шляхох волі.** Поэма.
2. **Там, на Захадзе.** Драма.
3. **„Вайна да пабеднага канца".** Драма.

---

